Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

13—19 лютага 1999 года
№ 7 (165)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

*ВЫБАРЫ*

## ... 4 красавіка

***Адносіны жыхароў г. Івацэвічы да выбараў у мясцовыя Саветы паспрабавалі высвятліць на вуліцах райцэнтра карэспандэнты нашай газеты.***



**Сяргей:** На мой погляд, у нашай маленькай Беларусі карысць можа быць толькі тады, калі ідуць выбары цэнтральнай улады. Мне не верыцца, што можа змяніцца сітуацыя, калі ў райсавет, да прыкладу, выбяруць іншых людзей, чым ёсць зараз. Бо, як звычайна, дэпутатам прыйдзецца прыслухоўвацца і выконваць тыя загады, якія ідуць зверху...

**Іосіф Трафімавіч:** Безумоўна, мясцовая ўлада Саветаў павінна быць у нас. Іншая справа, што яе роля, на маю думку, зведзена на нішто. Гэта чыста дэкаратыўная ўлада. Бо сёння шмат значыць выканаўчая ўлада, вертыкаль. На жаль, да слова "дэпутат" у нас адносіны апошнім часам не вельмі добрыя. У вуснах некаторых людзей гэтае слова гучыць як дармаед, абібок.



**Валянціна Іванаўна:** Трэба ісці і галасаваць. Я не падтрымліваю тых людзей, якія на ўсё махнулі рукой. Мяняецца час, павінны мяняцца і людзі, што пры ўладзе. Нічога ў гэтым жыцці адразу не робіцца. Рэзкія перамены немагчымы, ды і непатрэбны. Асабіста я пайду і прагаласую за таго кандыдата, які спадабаецца...

*А. ГОРБАЧ.*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

## ... і 16 мая?

Як вядома, Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, спасылаючыся на Канстытуцыю Беларусі 1994 года, аб'явіў 16 мая г. г. днём выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. У нашым рэгіёне (Баранавічы, Івацэвічы, Бяроза, Пружаны) таксама ідзе падрыхтоўка да гэтых выбараў — у асноўным стварэнне раённых выбарчых камісій. Гэтай справай заняты апазіцыйныя палітычныя партыі і грамадскія рухі.

*АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?*

## Была святліца. Будзе "темница"?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** — *"Газета для вас"? Скажыце, калі ласка, што за рэарганізацыя адбываецца ў Доме Саветаў, што на вуліцы Леніна? На першым паверсе, там, дзе раней была актавая зала, вокны зараз чамусьці закладзены цаглінамі. Кожны дзень, праходзячы міма, пытаю сябе — ці не турму там збіраюцца адчыніць?*

*У памяшканні без вокан будзе поўная цемра нават тады, калі на вуліцы заззяе самы яркі дзень.*

*Цікава, ці адаб'ецца на арганізатарах рамонту пастанова "Аб мерапрыемствах па паніжэнні расходу паліўна-энергетычных рэсурсаў у Беларусі", падпісанай самім Прэзідэнтам?*

*А. БЕЛЫ (г. Івацэвічы).*

Каб адказаць на гэтае пытанне, нашы карэспандэнты асабіста наведалі актавую залу Дома Саветаў, што на першым паверсе. Сапраўды, вялізнае памяшканне, у якім яшчэ нядаўна было сем вокнаў, стала зараз "глухім". Будаўнікі ПМК-18, якія яшчэ не закончылі тут свае справы, працавалі, зразумела, не ў прыцемках: "в сто солнц" зіхацелі лямпы ўнутранага асвятлення, якіх у гэтай зале ўстаноўлена столькі, колькі вечарамі цяпер, бадай, не свеціць на ўсіх вуліцах нашых Івацэвічаў.



А яшчэ мы звярнуліся ў Івацэвіцкі райвыканкам. Вось якое тлумачэнне адносна рамонту дала **С. А. ПАПКО, кіраўнік справамі райвыканкама:**

— Рашэнне аб менавіта такім рамонце райвыканкам прыняў у сувязі з нездавальняючым станам памяшкання актавай залы. Рамонт тут не праводзіўся больш за дзесяць год. І ўсё роўна мы як мага ашчадней аднесліся да гэтай неабходнасці, бо беражом кожную капейчыну. Чаму рашылі зрабіць сцяну "глухой"? Справа ў тым, што аконныя рамы прагнілі, а каб паставіць новыя пластыкавыя, трэба, так бы мовіць, "прилично раскошелиться". Мы рашылі выбраць самы ашчадны шлях. Не згодна з тым, што шмат грошай пойдзе на асвятленне. Паседжанні ж у актавай зале не будуць штодзённымі.

## Фашызму — не!

**ПРУЖАНЫ.** Маладзёжная арганізацыя "Грамадзянскі форум" пачала ствараць антыфашысцкі маладзёжны цэнтр. Пакуль ён будзе існаваць на базе маладзёжнай арганізацыі.

Ідэя стварэння новага грамадскага фарміравання ўзнікла пасля таго, як задужа моцна актывізаваўся ў рэспубліцы рух так званага Рускага нацыянальнага адзінства. У горадзе пакуль, дзякуй Богу, не з'яўляецца свастыка і іншая атрыбутыка фашыстаў. Але як вядома многім, праяўленні фашызму з боку РНА ўжо здараліся ў многіх буйных гарадах Беларусі. Таму своечасовае стварэнне маладзёжнага антыфашысцкага цэнтра ў горадзе вельмі дарэчы.

## 14 лютага — пікет

**Івацэвіцкі** райвыканкам дазволіў раённай Радзе БНФ правесці пікет у абарону незалежнасці Беларусі і супраць падзення ўзроўню жыцця. Пікет пройдзе 14 лютага з 10 да 12 гадзін у скверы па вул. Камсамольскай г. Івацэвічы.

## ГРЫП ЛЮТУЕ

**БАРАНОВИЧИ**. Ожидаемый порог количества заболеваний гриппом превышен в четыре и более раза. Эпидемия налицо.

По словам заведующего горздравотделом Петра Аксентьевича Монича, уже с 8 февраля в городе введены карантинные мероприятия. Это значит, что ограничены массовые собрания, закрыты все школы.

Запрещено посещение больных в стационарах и диспансерах. В многолюдных местах, например, в магазинах, введена обязательная дезинфекция. То есть, полы мыть нужно водой с дезинфицирующими растворами. А продавцы должны надеть маски. Врачам разрешено выдавать бюллетени сразу на 6 дней, а не на 3, как обычно. Поток людей, посещающих поликлиники, разделен — для заболевших гриппом вход отдельный.

Большая проблема сейчас — это недостаток бензина для санитарного автотранспорта. На этот счет директору нефтебазы дано указание о первоочередном снабжении бензином медиков.

Проблема и с лекарствами. А спрос на антивирусные препараты повышен. Найти недорогие лекарства в аптеках сейчас трудно. Импортные по карману не всем.

Для заболевших гриппом помогут обязательный домашний постельный режим, обильное питье, аспирин, аскорбиновая кислота (витамин С), лук, чеснок и жаропонижающие средства (в случае необходимости).

Особенность нынешней эпидемии гриппа в том, что протекает она в очень неблагоприятный для населения период. "Предшествовала высокая заболеваемость пневмониями, — рассказывает П. А. Монич, — снижен иммунитет у людей." Все это тесным образом связано с экологической ситуацией в регионе, социальными условиями, питанием.

**ІВАЦЭВІЧЫ.** — Распаўсюджванне грыпа ў раёне на мяжы з крытычнай адзнакай, — сцвярджае **В. В. ЧЫЖ, загадчык эпідэміялагічнага аддзела РЦГіЭ.** — У цэлым, рост хворых на грып болей чым у тры разы ад нормы, але на некаторых участках — болей чым у пяць разоў. Таму мы вымушаны часова зачыніць школы ў Даманаве, Яглевічах, Соміна. Папярэджваем усіх кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў, асабліва школ — захоўвайце ўсе меры перасцярогі, аб якіх РЦГіЭ папярэджваў у сваёй пастанове за 2 лютага. На жаль, некаторыя кіраўнікі пусцілі сітуацыю на самацёк і пажынаюць плады сваёй бяздзейнасці.

**ПРУЖАНЫ.** На працягу першага тыдня лютага ў раёне зарэгістравана 909 хворых на вострыя рэспіраторныя захворванні і грып, што складае 135,9 чалавек на 10 тысяч жыхароў. Перавышэнне эпідэміялагічнага парогу склала 1,9 працэнта. З-за абвастрэння хваробы ёсць выпадкі шпіталізацыі.

Школы пакуль працуюць у звычайным рэжыме.

**БЯРОЗА.** З 1 па 6 лютага ў паліклінікі раёна звярнулася 963 чалавекі, якім пастаўлены дыягназ грып ці вострае рэспіраторнае захворванне.

Ва ўсіх медыцынскіх установах уведзены каранцін. Да 18 лютага спынены заняткі ў райцэнтраўскіх школах. Комплексны план супрацьгрыпозных мерапрыемстваў прадугледжвае часовую адмену масавых мерапрыемстваў, нашэнне марлявых павязак медыкамі, работнікамі грамадскага харчавання і дзіцячых дашкольных устаноў.

Калі гаварыць аб дзіцячых садках, то ў іх, на шчасце, вірусныя інфекцыі не разгуляліся. Прычына, магчыма, у тым, што тут пастаянна дбаюць пра загартоўку выхаванцаў.

У раёне лідзіруе па тэмпах захворванняў Белаазёрск: у горадзе 40 працэнтаў школьнікаў грыпуюць. Рашаецца пытанне аб закрыцці асобных школ.

## Заўтра — Дзень святога Валянціна



## Стратэгічныя тавары

**БЯРОЗА.** Два славяніны — беларус і ўкраінец — аб'ядналіся, каб "перакінуць" 200 кілаграмаў сметанковага масла ў Смаленск. Стратэгічны прадукт не трапіў усходнім браткам-славянам. Яго міліцыя канфіскавала на Бярозаўскім чыгуначным вакзале. Заадно яна разбіраецца з дзяржаўным гандлёвым прадпрыемствам "Алеся" з Брэста, дзе ласкава адпусцілі столькі тавару "чаўнакам".

У полі зроку міліцыі трапілі таксама два ўкраінцы, якія везлі да сябе на радзіму з Барысава 23 тысячы скрынак з запалкамі на агульную суму 41 мільён рублёў. Транзітныя пасажыры засталіся без свайго тавару. Яшчэ ім давядзецца заплаціць штраф, які пацягнуў на 25 мільёнаў.

## Кожвен переехал

**БАРАНОВИЧИ**. 100 человек ежемесячно сможет разместить для лечения кожно-венерологический диспансер в новом здании, которое открылось недавно.

Как отметил главный врач диспансера Алексей Волчкевич, необходимость в строительстве нового здания существовала давно, однако финансовые проблемы не давали медикам возможности осуществить задуманное. После того, как Барановичское хлопчатобумажное объединение передало на баланс горисполкома один из детских садов, было принято решение разместить в этом здании медицинское учреждение. В будущем рядом с диспансером будет построена профильная поликлиника.

**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: Л. Цалуйка, А. Лаўранюк, А. Горбач, прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" г. Пружаны і А. Ганчук.**

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Дзе самая нізкая зарплата?

***Афіцыйная статыстыка сцвярджае, што сярэднямесячная зарплата ў Брэсцкай вобласці па выніках мінулага года самая нізкая ў рэспубліцы — 4,3 мільёна рублёў.***

Найбольш нізкааплачваемымі па-ранейшаму былі работнікі калгасаў і саўгасаў. Больш таго, там маюцца сур'ёзныя затрымкі па выплатах — у некаторых гаспадарках людзі не атрымліваюць грошай па чатыры месяцы. Як растлумачыў кіраўнік камітэта па эканоміцы і рынкачых адносінах Брэсцкага аблвыканкама Уладзімір Сцяпанаў, Брэстчына не мае прыбытковых галін, яна "загружана" канверсійнымі прадпрыемствамі. Апрача таго, гэта больш сельскагаспадарчая вобласць, чым прамысловая,адсюль і такая непрыемная з'ява, як нізкія заробкі і несвоечасовыя выплаты. Сёння, паводле афіцыйных даных, даўгі работнікам на прадпрыемствах вобласці і ў сельскагаспадарчым сектары складаюць 216 мільярдаў рублёў.

## Из-под стражи согласно Закону об амнистии

***В колониях и следственных изоляторах Беларуси сейчас находится более 62 тысяч человек.***

Самое большое количество среди амнистированных составят осужденные за различные виды хищений, но полностью возместившие причиненный ущерб. По данным МВД, их будет около 6 тысяч человек. Выйдут на свободу и около полутора тысяч осужденных за преступления, не являющиеся тяжкими и отбывшие не менее одной трети срока наказания.

Согласно закону, будут освобождены участники Великой Отечественной войны, несовершеннолетние, беременные женщины, женщины, имеющие детей до 16 лет или детей-инвалидов, граждане пенсионного возраста, инвалиды 1-й и 2-й групп, некоторые категории больных туберкулезом и онкологическими заболеваниями, а также воины-интернационалисты и участники ликвидации аварии на Чернобыльской АЭС. По этой статье будет освобождено около 600 человек.

Выйдут на свободу и 150 граждан, осужденных на срок до 7 лет и отбывшие треть наказания за преступления, совершенные по неосторожности. Кроме того, большой группе осужденных срок наказания будет сокращен на один год.

## Кожныя 4 хвіліны — злачынства

***Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу краіны, у 1998 годзе на Беларусі зарэгістравана 122.858 злачынстваў, што на 4,3% менш за паказчык 1997 года.***

Колькасць зарэгістраваных крадзяжоў склала 54.005 (у параўнанні з 1997 г. на 13% менш), рабаўніцтваў — 5.056 (зніжэнне на 13%), разбояў — 1.492 (зніжэнне на 8%), наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў — 2.075 (рост на 5,3%), наўмысных забойстваў і замахаў на забойства — 1.228 (рост на 2,85). У параўнанні з 1990 годам агульная колькасць зарэгістраваных у рэспубліцы злачынстваў вырасла на 62 працэнты, у тым ліку разбояў — на 145%, наўмысных забойстваў і замахаў на забойства — на 101%, наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў — на 64%, рабаўніцтваў — на 61%, крадзяжоў — на 42 працэнты. Разлікі паказалі, што ў 1998 годзе на Беларусі сярэднестатыстычны інтэрвал паміж злачынствамі склаў 4 хвіліны 17 секундаў (у 1990 годзе — 6 хвілінаў 57 секундаў).

## Міністр унутраных спраў пайшоў у адстаўку

***Прэзідэнт Беларусі задаволіў просьбу міністра ўнутраных спраў Валянціна Агальца і адправіў яго ў адстаўку.***

Праўда, Аляксандр Лукашэнка ўсё ж узнагародзіў міністра дадатковай зорачкай на пагоны — у адстаўку В. Агалец пайшоў ужо генерал-лейтэнантам. Былы міністр унутраных спраў пяройдзе на іншую працу: Валянціна Агальца чакае дыпламатычная праца ва Узбекістане.

Новым міністрам унутраных справаў стаў былы намеснік В. Агальца, камандуючы унутранымі войскамі генерал-маёр Юрый Сівакоў. Юрыю Сівакову 52 гады, ён жанаты, мае дачку.

## Памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў

***Да дзесяцігоддзя выхаду савецкіх войск з Афганістана ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя" выйшла "Рэспубліканская кніга Памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў".***

У кнізе пералічаны імёны грамадзянаў Беларусі, што загінулі ў войнах і ўзброеных канфліктах на тэрыторыі 15 краінаў свету. Толькі дзесяцігадовая вайна ў Афганістане забрала жыцці 723 нашых суайчыннікаў.

*(БелаПАН).*

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Залаты юбілей школы

***Хадакоўскай сярэдняй школе споўнілася 50 гадоў. З гэтай нагоды ў вёсцы Хадакі адбыліся ўрачыстасці. Яны былі прыўрочаны да дня сустрэчы з выпускнікамі школы.***

Спартыўная зала школы перапоўненая. Сюды прыйшлі не толькі сёлетнія педагогі і работнікі школы, але ж і тыя, хто працаваў тут раней, былыя і сённяшнія выпускнікі.

Вечар адкрыў вакальны жаночы ансамбль педагогаў, які задушэўна выканаў беларускую песню "З вёскі ў горад". Гэта быў добры, сімвалічны зачын. Бо гісторыя школы цесна звязана з гісторыяй роднай вёскі. А першае ўпамінанне пра яе адносіцца да 1559 года. Першымі пасяліліся тут, у глухамані, сярод балот і лясоў, былыя ўцекачы з рэкруцкага войска з Украіны па прозвішчу Міраноўскія. Ад тых, што сюды дабраліся, і пайшла назва вёскі. Спярша — Хадакоўцы, а потым — Хадакі.

А школа ў вёсцы ўзяла свой пачатак у 1948 годзе, калі пачатковую школуператварылі ў сямігадовую. Першым дырэктарам яе быў Васіль Мацвеевіч Беразавік. Яго ў хуткім часе змяніў Міхаіл Фёдаравіч Мельнікаў.

Успамінае Ганна Тарасаўна Дзеравяга. У тыя далёкія пасляваенныя гады яна працавала ў Жытлінскай пачатковай школе.

— Вельмі добра помню Міхаіла Фёдаравіча Мельнікава, — гаворыць Ганна Тарасаўна. — Гэта быў выдатны педагог і добры чалавек. На сваім матацыкле ён часта прыязджаў у Жытлін, цікавіўся справамі, многа дапамагаў мне. Я і сёння не забываю яго дабрату...

Прадоўжыў справу М. Ф. Мельнікава Іван Емяльянавіч Скачкоў, які на працягу сямі гадоў працаваў дырэктарам. Зараз ён пенсіянер, жыве ў Івацэвічах. Дырэктарскія пасады ў 60-я гады займалі таксама Міхаіл Платонавіч Малафееў, Міхаіл Мікалаевіч Банкалюк і Яўген Іванавіч Макарэня.

Дарэчы, М. М. Банкалюк прысутнічаў на юбілеі школы і ў сваім выступленні расказаў пра тыя гады сваёй працы ў Хадаках.

— Мне прыемна сустрэцца з былымі калегамі, — зазначыў Міхаіл Мікалаевіч. — Так, гэта быў няпросты час. Але ніхто не скардзіўся на цяжкасці. А вяскоўцы з павагай і разуменнем адносіліся да настаўнікаў, дапамагалі ім ва ўсім. Падтрымлівалі і маральна, і



*М. Ф. Мельнікаў (1952 год).*

матэрыяльна...

А былы дырэктар школы Я. І. Макарэня даслаў у Хадакі тэлеграму з Пінска:

"Сардэчна віншую вас са святам — 50-годдзем школы. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця. А шчасце — гэта стан, калі адчуваеш, што ў цябе на сэрцы лёгка. Іменна так адчуваў я сябе, працуючы дырэктарам Хадакоўскай школы, таму што побач працавалі таленавітыя, адданыя сваёй справе педагогі..."

З 1970 года пачаўся новы этап у жыцці і дзейнасці хадакоўскіх педагогаў і школы. Яе ўзначаліла Таццяна Ягораўна Палякова. 17 гадоў на дырэктарскай пасадзе, да самага выхаду на пенсію. Выдатны педагог, добры арганізатар — такой засталася ў памяці першы ў Хадаках дырэктар — жанчына. Яе нястомнай энергіі, клапатлівасці можа пазайздросціць любы мужчына. Пры непасрэдным удзеле Таццяны Ягораўны быў узведзены двухпавярховы будынак школы са спартыўнай залай. Светлыя прасторныя класы радуюць кожнага, хто сюды зойдзе.

Невыпадкова на ўрачыстым вечары, акрамя добрых слоў і падзяк у адрас Таццяны Ягораўны, ёй уручаны грамата і грашовая прэмія. А старшыня праўлення калгаса імя Кірава М. В. Радзяня ў знак вялікай павагі да любімай настаўніцы ўручыў Таццяне Ягораўне асабіста ад сябе каштоўны падарунак.




*Т. Я. Палякова (сядзіць пятая злева направа) з настаўнікамі і вучнямі школы (1978 год).*

Апошнія сем гадоў школу ўзначальвае Аляксандр Аляксандравіч Варабей. Выступаючы на вечары, ён адзначыў тое, што ўсё зробленае, гэта заслуга ўсяго калектыву школы і ў першую чаргу ветэранаў працы, якія аддавалі і аддаюць рабоце свае веды, розум і сэрца.

Звыш трыццаці гадоў на педагагічнай працы Сцепаніда Міхайлаўна Міраноўская. Уважлівая, клапатлівая. чулая, добрасумленная, яна і зараз разам з калектывам, разам з вучнямі. Без гэтага, відаць, яе жыццё згубіла б сэнс.

Аўтарытэт і гонар школе ў розныя гады стваралі і ствараюць Вера Кірылаўна Міраноўская, Галіна Мікалаеўна Казушчык, Валянціна Міхайлаўна Токар, Раіса Фёдараўна Варабей, Зоя Пятроўна Кузьменя, Валянціна Андрэеўна Бондар, Валянціна Аляксандраўна Кулініч, Валянціна Мікалаеўна Зыбайла, Любоў Іванаўна Кузьменя, Марыя Апанасаўна Власавец, Вера Антонаўна Міцкевіч і многія іншыя. Менавіта іх заслуга ў тым, што за ўсе гады закончылі школу 539 маладых людзей з Хадакоў, Волі, Жытліна, Власаўцаў і Корачына. У кожнай з гэтых вёсак сёння жывуць былыя выпускнікі Хадакоўскай СШ.

Не засталіся абыякавымі да юбілею школы кіраўнікі мясцовых гаспадарак і аддзела адукацыі райвыканкама. Старшыня калгаса імя Чарткова А. І. Малевіч падарыў школе музычны цэнтр і карціну, старшыня калгаса імя Кірава М. В. Радзяня — дывановы камплект на мяккі вугалок, намеснік начальніка аддзела адукацыі райвыканкама Г. Э. Швед уручыла каляровы тэлевізар. Яна зачытала прывітальны адрас калектыву школы ад райвыканкама, уручыла граматы і грашовыя прэміі лепшым педагогам школы. У ліку іх настаўніцы В. М. Токар, В. К. Міраноўская, З П. Кузьменя.

Свае падарункі школе з нагоды юбілею паабяцаў уручыць былы выпускнік Хадакоўскай СШ, старшыня Івацэвіцкага раённага спажывецкага таварыства В. А. Власавец.

Урачысты вечар не ўдаўся б, калі б не быў пасапраўднаму, з густам аздоблены музыкай, настаўніцкай і вучнёўскай самадзейнасцю. Вялікая заслуга ў гэтым М. М. Кулініча і К. М. Жабінскага, вядучых вечара Н. У. Кулініч і Т. М. Шыян.

У фае школы была наладжана выстава работ вучняў, аформлены стэнды фотаздымкаў школьнага жыцця розных г доў.

*50 — гэта<br>мудрая дата.<br>50 — гэта<br>сталы ўзрост.<br>50 — гэта<br>толькі пачатак<br>У светлае заўтра,<br>у новы паход...*

Сапраўды, наша школа, у тым ліку і Хадакоўская СШ, сёння на новым этапе развіцця. Хай ён будзе карысным ва ўсіх адносінах для вучняў, педагогаў,бацькоў і, канешне, цікавым і запамінальным, як гэты ўрачысты вечар, прысвечаны юбілею школы.

*С. КАЖАДУБ.*
*в. Хадакі Івацэвіцкага раёна.*

ЗДАРЭННІ

## Іншамарка ўспыхнула як свечка

Коўзкая дарога і хуткая язда — адны са складаемых зімовых дарожна-транспартных здарэнняў.

У тры гадзіны ночы на адной з шырокіх вуліц ля вакзала Баранавічы-Цэнтральная здарылася аварыя. Жыхар горада В. Казлоўскі, які сядзеў за рулём раскошнай іншамаркі "БМВ", не справіўся з кіраваннем і знёс на сваім шляху водаправодную калонку, рэкламную бетонную тумбу, слуп, а потым урэзаўся ў дрэва.

Ці то ад электрычных праводоў, што ўпалі на машыну, а, магчыма, ад пашкоджанняў іншамарка ўспыхнула як свечка. У машыне згарэлі вадзіцель В. Казлоўскі і яго спадарожнік — супрацоўнік гарадскога аддзела ўнутраных спраў А. Петравец. Дзвюх асоб жаночага полу падчас удараў выкінула з машыны, яны атрымалі пашкоджанні тазасцёгнавых суставаў.

Начальнік гарадскога аддзела ўнутраных спраў С. Мастыка лічыць тое, што здарылася, заканамернасцю. Уладальнік іншамаркі ніколі не вызначаўся дысцыплінаванасцю на вуліцах горада, ніколі не абмяжоўваў сябе ў выбары скорасцей.

*Л. САШЫН.*

## Апошні стрэл

У мінулую нядзелю жудасная вестка разнеслася па Косаве. У горадзе застрэліўся 47-гадовы жыхар К. Для апошняга стрэлу ў сваім жыцці ён выкарыстаў уласную паляўнічую стрэльбу. Прычыны самазабойства высвятляюцца. Зразумела адно: у наш цяжкі час некаторыя з жыхароў не знаходзяць выхаду са складанага становішча.

*С. РЫГОРАЎ.*

ЭКАНАМІЧНЫ ТУПІК

# Планы перавыконваем, а жывём усё горш

## Падведзены вынікі работы аб'ектаў гаспадаркі Івацэвіцкага раёна за 1998 год. Аб чым яны сведчаць?

У прамысловасці раёна па зводцы аддзела статыстыкі знешне як быццам бы ўсё гладка. План выпуску таварнай прадукцыі і тавараў народнага ўжытку ў параўнанні з 1997 годам перавыкананы, адпаведна на 116,3 і на 134,3 працэнта.

Па-ранейшаму цягнуць раён назад торфапрадпрыемства "Бярозаўскае", прыбарабудаўнічы завод, леспрамгас, Целяханскае лесагаспадарчае прадпрыемства.

Па тэмпах росту прамысловай вытворчасці раён заняў дзесятае месца сярод 20 гарадоў і раёнаў вобласці і пятае — па тэмпах росту тавараў народнага ўжытку.

Івацэвіцкі льнозавод, напрыклад, план таварнай прадукцыі не на многа, але перавыканаў. Затое тавараў народнага ўжытку вырабіў летась амаль у сем разоў больш, чым у 1997 годзе. Такі рэзкі скачок тлумачыцца тым, што тавараў народнага ўжытку пазалетась амаль не выпускалі. Адсюль і рост. Дырэктар ільнозавода П. М. Лемяшэўскі тлумачыць гэта так:

— Летась у нас пачала працаваць швейная майстэрня. Яна невялікая. У ёй пяць швачак. Наладжана шыццё спецадзення, рукавіц і г. д.

Значна ўзрос выпуск тавараў народнага ўжытку і на Квасевіцкай пер'е-пуховай фабрыцы. Працоўны калектыў на чале з Таццянай Канстанцінаўнай Папко пастаянна, з веданнем справы нарошчвае вытворчыя магутнасці, абнаўляе асартымент выпускаемай прадукцыі, знаходзіць сыравіну і рынкі збыту. Словам, працуе так, каб праца прыносіла кожнаму рабочаму і маральнае, і матэрыяльнае задавальненне. Гэта адзіны вытворчы калектыў у раёне, дзе праца кожнага чалавека па сённяшніх мерках добра і своечасова аплочваецца. І ўсе работнікі (а тут пераважная большасць жанчыны) задаволены ўмовамі працы і сваім кіраўніцтвам.

Бяда ў тым, што такіх прадпрыемстваў і кіраўнікоў у нас адзінкі.

На фоне агульных поспехаў чатыры прамысловыя прадпрыемствы з 22 (а гэта крыху больш за 18 працэнтаў) знізілі аб'ёмы вытворчасці да ўзроўню 1997 года.

Нехта можа сказаць, што гэта дробязь, маўляў, справу лёгка паправіць. На жаль, ужо некалькі гадоў гэтая "дробязь" ніяк не знікае, нягледзячы на ўсе спробы і намаганні з боку ўладаў.

У зводцы па прамысловасці не расшыфроўваецца фінансавае становішча прадпрыемстваў. Але па тым, што большасць рабочых прамысловасці атрымлівае невысокую зарплату, а на саміх прадпрыемствах ніяк не могуць абнавіць сваё абсталяванне, каб перайсці на навейшую тэхналогію і выпускаць якасную, канкурэнтназдольную прадукцыю, якая б не залежвалася на складах, а прыносіла прыбытак, можна зрабіць вывад, што на гэта няма грошай. Раённыя кіраўнікі і раяць, і патрабуюць даваць прадукцыю на экспарт. А гэта валюта, якая так патрэбна раёну. Калі параўнаць год мінулы з годам 1997-м, то прыходзіцца канстатаваць, што колькасць заробленай валюты рэзка знізілася. Галоўная прычына ў тым, што прадпрыемствы дрэнна працуюць па асваенню новых відаў прадукцыі, якая б ішла на экспарт. Словам, валюта, як паветра, патрэбна раёну.

Калі гаворка зайшла пра валюту (а гэта пераважна долары ЗША), то хацелася б сказаць вось аб чым. Афіцыйны друкаваны орган райвыканкама метадычна, з нумара ў нумар наўмысна ці па няведанні ганьбіць і зневажае грашовую адзінку (долар) іншай дзяржавы, абвінавачваючы яе ва ўсіх грахах. Маўляў, ён паралізаваў Расію, ірвецца на Беларусь. Словам, калі знішчыць той долар, то, маўляў, эканоміка Беларусі, нібы на дражджах, узнімецца на недасягальную вышыню.

Такія гучныя заявы афіцыйнай раёнкі ніяк не стасуюцца з выказваннямі і прапановамі раённых кіраўнікоў аб прыярытэтным экспарце прадукцыі за мяжу, гэта значыць, продаж за валюту.

Хто тут і каго не разумее, хто каму сапраўды шкодзіць, а



не пасабляе, разбірацца ім самім. Па крайняй меры, збоку гэта выглядае і дзіўным, і смешным. Усё ж долар — сусветная валюта, а наш беларускі "заяц" — пустая паперка, якую нідзе і ні на што не абмяняеш. Крыўдна.

Пра будаўніцтва хачу сказаць вось што. Хаця планы па ім перавыкананы, але ў тых рублях і працэнтах толькі бачны адзін бок медаля. Будуюць у большасці, як і раней у савецкія часы, то хутка, то доўга. І першым і ў другім выпадках няякасна, з грубымі недаробкамі. Напрыклад, пасля ўводу такога жылля ў эксплуатацыю адразу пачынаецца рамонт. Так было ў дамах на вуліцах імя Чарткова, 70 год Кастрычніка, Шаўчэнкі, Дэпутацкай...

Цікава параўнаць такія лічбы. Летась пабудавана 28313 квадратных метраў жылля пры заданні 28520. Гэтая лічба склалася з таго, што індывідуальнымі забудоўшчыкамі ўведзена ў эксплуатацыю 15363 квадратныя метры жылля. Вось хто дапамог падцягнуць раённы план будаўніцтва. Як аказалася, упершыню за тры апошнія гады не выканана жыллёвая праграма. Гэта і не дзіўна, бо на старым кані, як кажуць, далёка не заедзеш.

Знаёмячыся з лічбамі зводак аддзела статыстыкі аб выніках работы сельскай гаспадаркі раёна за мінулы год, прыходзіцца да вываду, што і па мясу, і па малаку як быццам і няма праблем. Планы па валавой вытворчасці, па надоях ад адной каровы, па прывагах жывёлы на адкорме перавыкананы. Трэба прымаць віншаванні. Справы ў жывёлагадоўлі ідуць выдатна. Колькасць жывёлы павялічваецца. Засмучае адно. Амаль у кожнай вёсцы, як сіраты, стаяць пустыя жывёлагадоўчыя памяшканні. Пры яўным поспеху і росце колькасці жывёлы такі непрыглядны вясковы пейзаж.

Стан спраў у жывёлагадоўлі поўнасцю залежыць ад паказчыкаў у раслінаводстве і кормавытворчасці. А яны, шчыра кажучы, былі летась не бліскучымі. Недаатрымана ў параўнанні з 1997 годам 26 тысяч тон збожжа. Нарыхтавана на стойлавы перыяд на ўмоўную галаву жывёлы па 19 цэнтнераў кармавых адзінак. Гэта на сем працэнтаў менш, чым пазалетась.

Як бачым, кармоў катастрафічна не хапае. Мала нарыхтавалі. Прычына, кажуць, у дрэнным надвор'і. Але гэта толькі для нядбайных гаспадароў. Не змаглі, не ўбралі, тэхніка падвяла і г. д. Як пратрымаць жывёлу да пашавага перыяду? Раённыя чыноўнікі раяць кіраўнікам гаспадарак касіць траву зімой, каб папоўніць запас кармоў.

Яшчэ можна параіць скасіць кукурузу, якая засталася стаяць на зіму, жыта, авёс, ячмень і сумесі, што не ўбралі ў час жніва. А вясною паспрабаваць выкапаць бульбу, што пакінулі на зіму. Наша газета пісала пра гэта, называючы дакладныя адрасы ў раёне.

Такім чынам, агульны стан спраў у народнай гаспадарцы раёна лічыцца добрым, а эканоміка стабільнай. Узрасла прадукцыйнасць працы ў прамысловасці на 13,9, у будаўніцтве — на 37,4 працэнта. Скарацілася беспрацоўе. Перавыканана даходная частка раённага бюджэту. У два разы павялічылася зарплата ў работнікаў усіх галін народнай гаспадаркі.

Радавацца трэба. Рынкавы сацыялізм вядзе да дабрабыту людзей, да працвітання краіны. Калі ж падлічыш тую зарплату ці пенсію, то атрымліваецца, што летась грашовыя выплаты (улічваючы павышэнне) у два разы сталі меншыя, чым год таму. Пры цяперашніх пяці-і шасцізначных лічбах на цэнніках, за сённяшнюю зарплату можна купіць у два разы менш, чым раней. Такая простая арыфметыка. Яна сведчыць аб нізкім, жабрацкім узроўні жыцця народа. І паляпшэння пакуль не відаць. Відаць адно, як штодня імкліва растуць цэны на прадукты, тавары і паслугі.

І апошняе. Пры стабільнай эканоміцы ў раёне і краіне (а гэта нам даносяць дзяржаўныя органы праз усе сродкі масавай інфармацыі) цэны на ўсё, што прадаецца і купляецца, павінны зніжацца, а не расці. А ў нас наадварот. Не так як у людзей. Ад таго, відаць, і жывём усё горш і горш. Калі ж навучымся і гаспадарыць, і жыць па-людску?

С. РЫГОРАЎ.

РЭАЛІІ ДНЯ



*Бясконцыя чэргі ў гастраномах. Пустыя прылаўкі. Пастаянныя затрымкі з выплатай пенсій. Гэты кашмар, які паказваюць штодзённа расійскія тэлеканалы, асабліва кранае тых нашых грамадзян, што маюць сваякоў у Расіі. Ці можна ім неяк дапамагчы? Не толькі маральна, патэлефанаваўшы ці адправіўшы пісьмо, але і матэрыяльна? Напрыклад, адправіць пасылку з харчамі. Па тлумачэнні карэспандэнт "Газеты для вас" А. Лаўранюк звярнуўся да начальніка страхавога ўчастка Івацэвіцкага раённага вузла паштовай сувязі В. У. ГОРБАЧ.*

# Шліце пасылкі расійскім сваякам

**— Валянціна Уладзіміраўна, адпраўляць пасылкі ў Расію мы маглі заўжды. Ці можна гэта зрабіць цяпер, калі краіна-суседка перажывае фінансава-эканамічны крызіс! Паглядзіце, што робіцца на аўтадарогах і ў цягніках: пасажыраў, што вязуць прадукты, затрымліваюць, тавары канфіскуюць. Мэта зразумелая: улады хочуць спыніць сякі-такі вываз прадуктаў з нашай краіны. Мо такія строгія меры дзейнічаюць і ў сувязістаў!**

— Ніякіх дакументаў наконт абмежавання ці забароны мы не атрымлівалі. Як і раней, пасылкі ў Расію мы прымаем у закрытым выглядзе і без афармлення мытнай дэкларацыі.

Адначасова заўважу, што ў іншыя краіны СНД мы прымаем пасылкі ў адкрытым выглядзе, па вопісу. Плюс да ўсяго афармляем дэкларацыю.

**— Атрымліваецца, што я магу адправіць у Расію ўсё, што хачу: і некалькі кілаграмаў салёнага сала, і пару пачкаў макаронаў...**

— Так, кладзіце ў пасылку ўсё, што лічыце патрэбным. Непажадана, вядома, класці ўсё, што можа выбухнуць, загарэцца ці пацячы. Памятайце, пасылка павінна важыць да 10 кілаграмаў.

**— Ці многа давядзецца заплаціць за пасылку!**

— Цяпер мы кіруемся тарыфамі, уведзенымі 12 студзеня гэтага года. Так, тарыф на наземную перасылку пасылак складае сёння 27 тысяч за кожны кілаграм масы. Да гэтай сумы дабаўце яшчэ 926 тысяч рублёў.

Калі вы хочаце адправіць пасылку самалётам, дык аплата кожнага кілаграма масы будзе ў некалькі разоў вышэйшай.

**— Ці існуе страхавы збор!**

— Існуе. Ён складае 10 працэнтаў ад сумы, запісанай у графе "каштоўнасць паштовага адпраўлення".

**— А як абстаяць справы з лекамі! Ці можна іх перасылаць!**

— У Расію лекі пасылаць можна, а вось на Украіну — нельга.

**— Наконт пасылак усё зразумела. А ці дазваляецца адпраўка ў Расію грашовых пераводаў!**

— Дазваляецца. Праўда, згодна з міждзяржаўнай двухбаковай дамоўленасцю, на працягу месяца вы маеце права адправіць перавод (ці некалькі) на агульную суму — 5 мільёнаў беларускіх рублёў. Няма ніякіх абмежаванняў для перасылкі пенсій, аліментаў і дзяржаўных дапамог.

Заўважу адразу, што на Украіну грашовыя пераводы таксама цяпер прымаюцца. А калі гэта пенсія, аліменты ці дзяржаўная дапамога, сума іх павінна складаць не больш чым 5 мільёнаў рублёў.

**— У якой валюце атрымае перавод з Беларусі расійскі грамадзянін!**

— У расійскай, сума будзе разлічана па курсу Нацыянальнага банка РБ на момант адпраўлення перавода.

**— Колькі часу перавод ідзе!**

— Максімальны тэрмін — адзін месяц.

**— Дзякуй, Валянціна Уладзіміраўна, за тлумачэнні.**

ВАША ПІСЬМО

# Ці будзе чыстаю вада?

*Кожны дзень, адкрываючы кран і набіраючы ваду, думаю — калі, нарэшце, у нашым горадзе з кранаў пальецца вада, а не карычневая, прабачце, бурда. Чаму маўчыць санэпідэмстанцыя? Што? Няўжо вада ў нас у норме?*

*Колькі часу могуць маўчаць улады, якія гадамі цешаць нас навіною, што каля горада будуецца станцыя па абезжалезванню вады. Чаму ніхто нідзе не паведамляе пра тое, у якім стане знаходзіцца гэтая будоўля? Чаму так доўга? Хіба АЭС ці ГРЭС там будуюць, што трэба шалёныя грошы і мора часу?*

*Другое пытанне — камунальнікам. Ці стане лепшай якасць вады, калі ўся сістэма водазабеспячэння ў нас старая, пржавелая, пастаянна выходзіць са строю? Ці не стануць іржавыя трубы той лыжкай дзёгцю, якая сапсуе бочку мёду?*

*P. S. Пішу ў "Газету для вас" таму, што ваша выданне, я ўпэўнены, надрукуе маё пісьмо не прылізваючы, а так як яно ёсць.*

*В. К. ДУДЗІК, жыхар г. Івацэвічы.*

**АД РЭДАКЦЫІ.** Пра якасць (а дакладней — адсутнасць усялякай якасці) вады ў Івацэвічах наша газета пісала неаднаразова. Але справа не рухаецца з месца. Па чарговыя тлумачэнні "Газета для вас" звярнулася да **начальніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва Івацэвіцкага райвыканкама П. В. КРОНДЫ.**

— Станцыю па абезжалезванню вады плануем увесці ў эксплуатацыю ў сённяшнім, 1999 годзе. Падкрэслю, плануем. Бо на цяперашні момант гаварыць больш канкрэтна мы не можам таму, што яшчэ не зацверджаны рэспубліканскі бюджэт, які, як вы ведаеце, разглядаецца беларускім парламентам і падпісваецца Прэзідэнтам. Бюджэт пасля размяркоўваецца па абласцях, дзе і вырашаецца — якія з аб'ектаў заслугоўваюць найбольшай увагі. Лічу, што наша будуемая станцыя знаходзіцца пад кантролем адпаведных абласных і рэспубліканскіх структур, таму пытанне будзе вырашана на нашу карысць.

● ЛЁС ЧАЛАВЕЧЫ

# ВЕРЫНЫ ПУЦЯВІНЫ





**(Працяг. Пачатак у № 6).**

### 3. "МАЁ МЕСЦА — ТАМ..."

Гэтыя словы належаць Веры Харужай. Сказаны яны не беспадстаўна і пры наступных абставінах.

Аднойчы Вера прысутнічала на гарадскім камсамольскім сходзе. У канцы яго старшыня аб'явіў, што на сход прыбыў прадстаўнік брацкага камсамола Заходняй Беларусі, які выступіць перад прысутнымі. У сувязі з тым, што камсамол Заходняй Беларусі дзейнічаў ва ўмовах суровага падполля, жорсткіх праследаванняў, і каб захаваць канспірацыю, на вокнах залы былі апушчаны шторы. У зале стала цёмна.

Вера і ўсе прысутныя слухалі выступленне маладога чалавека, падпольшчыка, які расказаў аб барацьбе моладзі Заходняй Беларусі супраць белапольскіх акупантаў, аб гераічных подзвігах юнакоў і дзяўчат, пра тых, хто аддаў сваё жыццё за свабоду і незалежнасць сваёй радзімы.

"Як магу я спакойна сядзець тут, калі мае браты і сёстры церпяць такія пакуты? Маё месца — там, сярод іх. І я стану ў іх рады..."

Гэтая сустрэча і іншыя развярэдзілі душу маладой патрыёткі, і яна цвёрда рашыла перайсці граніцу і ўключыцца ў работу камсамола Заходняй Беларусі. Таму Харужая звярнулася ў ЦК Кампартыі Беларусі з просьбай накіраваць яе на падпольную работу ў Заходнюю Беларусь. Просьбу яе задаволілі.

Пачалася актыўная падрыхтоўка. Перш за ўсё стала вывучаць польскую мову, без якой ніяк не абысціся ў падполлі, і, вядома, без ведання побыту, нораваў і звычаяў палякаў. Гэта была карпатлівая і цяжкая праца. Але Вера адступаць ніколі не прывыкла. І тут упарта і настойліва авалодвала патрэбнымі ведамі.

У пачатку лютага 1924 года Вера Харужая ўжо знаходзілася ў Заходняй Беларусі. Спярша ў Вільні, потым у Гродне. З горада ў горад, з вёскі ў вёску пралеглі шляхі-дарогі Веранікі Карчэўскай (падпольная мянушка Харужай). Яна праводзіла камсамольскія канферэнцыі, сходы, выступала на мітынгах, сустракалася з моладдзю, рыхтавала лістоўкі і адозвы, пісала артыкулы ў газеты. Словам, штодня Вераніка была занята падпольнай работай. Рос яе аўтарытэт сярод камсамольцаў, моладзі і наогул сярод насельніцтва.

Аб смеласці і рашучасці маладой падпольшчыцы сведчыць тое, што яна часта выступала перад насельніцтвам сярод белага дня і, вядома, падвяргала сябе небяспецы.



*Вера Харужая (у цэнтры) са сваімі сяброўкамі па падполлі Раманай Вольф (злева) і Людвігай Янкоўскай (справа).*

Але ж такі характар у Веры, і з гэтым прыходзілася лічыцца.

Так, у жніўні 1924 года ў вёсцы Смаляніца адбыўся антываенны мітынг. Сотні сялян Пружанскага павета на падводах прыехалі сюды нібы на базар. У 12 гадзін на адну з павозак, што стаяла ў самым цэнтры, падняліся мясцовыя актывісты, разам з імі і Вера Харужая. Яе выступленне ўсхвалявала прысутных. Яны скандзіравалі: "Далоў уладу Пілсудскага!.."

Са Смаляніцы Вера накіравалася ў вёску Чахец гэтага ж павета, дзе таксама адбыўся мітынг. Харужая зноў расказала пра становішча ў Заходняй Беларусі, пра барацьбу супраць існуючага рэжыму.

У горадзе Бельску, дзе на базарнай плошчы адбыўся мітынг, прысутнічала шмат народу. Вера гаварыла тут вельмі натхнёна. Яе звонкі голас ляцеў над плошчай, і кожнае слова было такім блізкім і зразумелым. Слухалі яе з вялікай цікавасцю.

Моладзь і камсамольцы горада арганізавалі ахову мітынга. Неўзабаве паявілася паліцыя, якая прабіралася да цэнтра, каб схапіць актывістаў. Але Вера з дапамогай мясцовых хлопцаў непрыкметна знікла ў натоўпе.

Як сакратар ЦК камсамола Заходняй Беларусі, член ЦК КПЗБ і член ЦК камсамола Польшчы, Вераніка Карчэўская паяўлялася ў самых розных месцах. Шпікі збіліся з панталыку, шукаючы няўлоўную і галоўную камсамолку. Але ж на гэты раз уберагчыся не ўдалося.

З 14 на 15 верасня 1925 года (а гэта было на адной з кватэр у Беластоку) Вера Харужая, як заўсёды, працавала за пісьмовым сталом. Атрымаўшы пакет ад ЦК камсамола Савецкай Беларусі, яна рыхтавала лістоўку на польскай мове, дзе хацела расказаць пра справы ў Краіне Саветаў. Зрабіць гэта не давялося. Грукат у дзверы спыніў яе работу. Паспела ўсё ж знішчыць асноўныя дакументы. Так Вера папала за турэмныя краты. Спярша знаходзілася ў турме г. Беластока.



Турма ў Беластоку, дзе адбывала пакаранне Вера Харужая.

Допыты, ізноў допыты. Але адважную патрыётку гэта не зламала, не паставіла на калені. Яна і ў турме змагалася. Калектыўныя пратэсты, галадоўкі вымушалі адміністрацыю турмы ісці на некаторыя ўступкі.

"Не, гэта ўдзел слабых духам — замаркоціцца", — казала Вера і тым самым узнімала настрой усіх насельнікаў камеры.

15 месяцаў ішло следства. 15 месяцаў амаль штодзённых выклікаў і допытаў. Як бы ні было цяжка, пакутліва, а часам і непасільна, але Вера ніколі не апускала галавы. Толькі так яна магла выстаяць. Бо прыклад сакратара вельмі быў патрэбны для ўсіх, каб на судзе дастойна адстойваць свае правы. Гэты суд адбыўся 10 студзеня 1927 года ў Брэсце. Ён увайшоў у гісторыю як працэс "31". Менавіта судзілі столькі актыўных камуністаў Брэста і акругі. Суд стаў сапраўдным трыбуналам, з якой падсудныя, палітычныя вязні, абвінавачвалі ўлады ў рэпрэсіях супраць народа.

— У адным я глыбока ўпэўнена, — гаварыла Вера на судзе, — што дачакаюся таго дня, калі мы будзем судзіць вас па ўсёй строгасці пралетарскіх законаў...

Шэсць гадоў турэмнага зняволення атрымала Вера, яе саратнікі таксама розныя тэрміны. Але на гэтым суд над падпольшчыкамі не закончыўся. Рыхтаваўся новы працэс, які адбыўся ўжо ў Беластоку. Пачаўся 17 красавіка 1928 года і запомніўся як працэс "133-х". Столькі патрыётаў адначасова было на лаве падсудных. Уся Беластоцкая турма песнямі праводзіла зняволеных у залу суда.

Гэты працэс быў самым гучным у тыя гады і атрымаў шырокі рэзананс. Вера, як і іншыя яе саратнікі, выступала не як падсудная, а як абвінаваўца фашысцкага рэжыму, які панаваў у Польшчы.

— Камсамол — не шпіёнская арганізацыя ў польскай арміі, — гаварыла Вера Харужая. — Камсамол — гэта палітычная арганізацыя рабоча-сялянскай моладзі. Яна выхоўвае моладзь і арганізуе яе на барацьбу за эканамічныя, палітычныя і нацыянальныя правы...

— Абвінавачваная, спыніце агітацыю, — перабіваў яе суддзя, — інакш я вас пазбаўлю слова.

Самае цікавае адбылося пасля таго, як аднаго з падсудных за палітычную агітацыю выдалілі з залы. Па прапанове Харужай астатнія падсудныя пачалі пакідаць залу. Што тут рабілася, не пераказаць. Суд быў у разгубленасці. Ён не чакаў такога выніку. Былі выкліканы дадаткова паліцэйскія, каб спыніць пакідаючых залу суда...

На гэтым судовым працэсе Вера атрымала восем гадоў турэмнага зняволення. Былі пакараны і астатнія падсудныя.

Турма для Веры Харужай і яе паплечнікаў з'явілася сапраўднай школай палітычнай загартоўкі. Увесь свой вольны час яна аддавала вучобе. Вучылася сама і вучыла іншых. Літаратурай яе забяспечвалі сябры з волі.

"Сярод нас няма ні адной, — пісала Вера Харужая ў сваім пісьме на волю, — якая б каялася, лічыла турму няшчасцем. Усе мы — і старыя, і маладыя — з гордасцю нясём сваё званне палітзняволеных, усе мы — ці то асуджаныя на гады ці на 15 гадоў — не ведаем, што такое ваганні, маральнае падзенне ці хаця б часовы ўпадак духу".

Вызваленне з-за турэмных кратаў для Веры Харужай прыйшло нечакана. У 1932 годзе па абмене палітзняволенымі паміж СССР і Польшчай Вера пасля сямі год турэмнага жыцця выйшла на волю і атрымала магчымасць вярнуцца на сваю радзіму.

*С. КАЖАДУБ.*
*Івацэвіцкі раён.*
*(Працяг будзе).*

● РАССМОТРЕНО ГОСУДАРСТВЕННЫМ КОНТРОЛЕМ

# Что показали проверки

На очередном заседании коллегии Комитета государственного контроля Брестской области рассматривались результаты ревизий финансово-хозяйственной деятельности Давид-Городокского электромеханического завода (директор В. Н. Куст), Пружанского завода радиодеталей (директор Р. А. Федичев) и Ивацевичского приборостроительного завода (директор Н. В. Попко).

Отмечено, что на всех трех заводах на низком уровне находится кассовая дисциплина. Выявлены такие нарушения, как использование выручки на собственные нужды сверх утвержденных лимитов (Пружанский и Давид-Городокский заводы), превышение лимита остатка денежных средств (Ивацевичский завод), выдача в подотчет денег без полного отчета по ранее выданным суммам (Давид-Городокский, Ивацевичский заводы), несвоевременный возврат неиспользованных подотчетных сумм, в т. ч. и валютных, переплаты при возмещении командировочных расходов.

Отрицательно сказались на финансовом состоянии заводов поставки продукции зарубежным получателям по непродуманным, экономически и юридически необоснованным контрактам, в связи с чем Давид-Городокским заводом до настоящего времени не получена выручка в сумме 19,9 тыс. немецких марок и 1,0 млн. российских рублей, Пружанским заводом — 115,5 тыс. долларов США.

Во всех проверенных предприятиях выявлены несанкционированные превышения сроков проведения экспортно-импортных операций.

Значительные потери заводы понесли из-за ничем необоснованного занижения цен на реализуемую продукцию, основные средства, материалы.

В связи с недостаточным уровнем подготовки счетно-бухгалтерских работников и необеспечением их необходимыми инструктивными материалами установлены многие нарушения налогового законодательства.

Серьезные нарушения выявлены в обеспечении сохранности государственной собственности, постановке и ведении бухгалтерского учета.

Решениями Комитета государственного контроля по Брестской области за допущенные нарушения действующих нормативных и законодательных актов в сфере экономики применены экономические санкции: к Давид-Городокскому электромеханическому заводу в сумме 1596,8 млн. бел. рублей и 209,1 тыс. российских рублей; к Пружанскому заводу радиодеталей — 264,8 млн. бел. рублей, 60 долларов США и 679,0 тыс. российских рублей; к Ивацевичскому приборостроительному заводу — 187,2 млн. белорусских и 202,7 тыс. российских рублей.

Ивацевичскому, Столинскому и Пружанскому райисполкомам предложено взять под контроль устранение недостатков и нарушений, выявленных документальными ревизиями заводов, оказать им содействие в подборе и закреплении кадров, а также необходимую консультативную помощь счетно-бухгалтерскому аппарату данных предприятий.

*С. АНДРЕЮК,*
*секретарь пресс-центра Комитета госконтроля по Брестской области.*

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Ільготны тэлефонны тарыф

*— Газета для вас? Мае знаёмыя сцвярджаюць, што з 22 гадзін тэлефонныя перамовы каштуюць танней, таму лепш за ўсё, маўляў, званіць пасля азначанага часу. Гэта было б някепска, бо перамовы каштуюць сёння дорага, асабліва ў Расію. Ці праўда гэта?*
*Жанна (г. Івацэвічы).*



**Каб адказаць на гэтае пытанне, мы звязаліся з Івацэвіцкім тэлеграфам. Вось што адказала нам аператар разліковай групы Л. У. БОНДАРАВА:**

— Тэлефонныя размовы ў межах рэспублікі сапраўды каштуюць танней на 50%, але не з 22, а з 23 гадзін да 6 гадзін раніцы. На 50% таннеюць перамовы і ў выхадныя дні — суботу, нядзелю — і ў святочныя дні. Зноў жа заўважу, калі вы тэлефануеце ў межах Беларусі. Пры тэлефонных перамовах з Расіяй ці іншымі краінамі тарыф застаецца нязменным у любы час сутак і любы дзень.

